*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 2 (1465) 8 СТУДЗЕНЯ 2020 г.**

**Да юбілею Вольгі Іпатавай**

# У ТВОРЧЫМ СВАЯЦТВЕ
## (Водбліскі сустрэчаў)

Волечка нарадзілася ў навагоднюю ноч у шпіталі каля сцяны старажытнага Мірскага замка. Дзесяць гадоў правучылася ў Наваградскай сярэдняй школе. Дарэчы, там на гарадскіх могілках пахавана яе мама.

Таму Наваградчына для Вольгі Міхайлаўны Іпатавай больш, чым "мой родны кут". Радаводныя сувязі моцныя зваротнай любоўю. І мы, госці Менска, бачылі ў сакавіку 1983 года, як любяць у Наваградку сваю зямлячку, як шануюць яе пісьменніцкую работу. Вось чаму творчы вечар Вольгі Іпатавай ператварыўся там у сапраўднае свята мастацтва.



З выступленнямі сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Івана Чыгрынава, намесніка дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Уладзіміра Гніламёдава, паэта Алеся Ставера суседнічалі цікавыя нумары танцавальнага ансамбля "Свіцязь", а таксама песні, якія прывезлі з сабою з Менска кампазітар Алег Чыркун і артыстка Зоя Мордус.

Ці не тады ўзніклі ў маім блакноціку першыя радкі верша "Ля вежаў Наваградка" з эпіграфам радкоў Вольгі Іпатавай: *"Самы маленечкі гарадок // Да тоўстай кнігі падобны"*.

Было ўсцешна да 40-годдзя ўжо знакамітай на ўсе мерыдыяны і паралелі паэтэсы ўручыць ёй кнігу лірыкі "Мацярык" (1985) з вершам, які пачынаўся так:

*Адкуль ідзём? Ад баразны,*
*з малога калівa…*
*Няма наваградскай сцяны,*
*і замак спалены?*
*Затое мы - саюз вякоў*
*жывучай спадчыны…*
*Наваградак - ты меч бацькоў,*
*ты - песня матчына.*

Я часта адгукаўся на з'яўленне новых творчых здабыткаў Вольгі. На выдадзеную ёю ў 2002 г. кнігу "Альгердава дзіда" вось такім эх-спромтам "успыхнуў", адрасуючы яго чытачам трылогіі:

*Ці ты грабар з лапатаю,*
*ці інцель з пысай гербавай, -*
*папсу не слухай з квартаю…*
*Чытай, упыр, Іпатаву:*
*яна з душой упартаю*
*і з дзідаю Альгердавай.*

А вось услаўлены Вольгаю так званы Альгердаў Шлях я "перавёў" у свой верш "Пачула Неба…" З прысвячэннем ёй верш быў змешчаны ў маім зборніку "Нас - многа" (2012). А пачынаецца твор такімі радкамі:

*Вісіць над намі*
*вечны Млечны Шлях.*
*Альгердаў Шлях*
*нас калаціў і песціў.*
*Шлях з Грэкаў у Варагі -*
*у вірах.*
*А ён жа азалочваў і нявесціў…*

x x x

У 1960 годзе 15-гадовая піянерка Волечка была запрошана ў Дом творчасці "Каралішчавічы", дзе праходзіла ўрачыстая сустрэча знакамітых пісьменнікаў. На здымку відаць, як лагодна прытуліў юную паэтку Янка Маўр. Амаль праз 40 гадоў Вольга Іпатава зноў аказалася ў Каралішчавічах, дзе яшчэ захоўвалася шыльда з надпісам: *"У гэтым доме жыў і працаваў у 1950-56 г.г. народны паэт БССР Якуб Колас".*

У снежні 1984 г. ля Дома творчасці фатаграфаваліся Вольга Іпатава (на здымку справа), на прыступку вышэй - Васіль Макарэвіч, Авяр'ян Дзяружынскі, Віталь Зэйдэль-Вольскі, Валянціна Аркадзеўна Куляшова з дачкою і я.



*Думы з зямлёй злучалі*
*тут - калі яшчэ! - крывічы.*
*Веча абветранага адчаю -*
*Каралішчавічы.*

Прыгадаўся ўрывак з верша "Каралішчавічы" з кнігі лірыкі "Мацярык" (1985).

Мой каляндар-чысьленнік пільнуе даты нашага творчага пабрацімства-сваяцтва. У 1986 г. на стол маёй сямейкі трапіла кніжка Вольгі Міхайлаўны "Узелок Святогора" з такім дарчым надпісам: *"Сяргею і Людміле Панізнікам.*
*Гады ляцяць*
*на плечы лістападам.*
*Даўно вяду сумежную раллю.*
*Як перадаць мне ціхую спагаду*
*Да Вас, якіх шаную і люблю?!*
*Вольга. 28.IV. 86 г."*

У 1985-1989 гадах Вольга Міхайлаўна працавала галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання. А ў 1979 - 1982 гадах я сам быў рэдактарам дзяржтэлерадыё БССР. І таму стасункі з падначаленай Генадзя Бураўкіна былі ў мяне актыўна-творчыя. Прыгадваюцца падзеі ў Львове восенню 1987 г. Там праходзіў так званы "круглы стол" украінскіх і беларускіх пісьменнікаў-перакладчыкаў: "Векавыя традыцыі міжнацыянальных зносін нашых народаў". Вядоўцамі былі Вольга Іпатава і Раман Лубкіўскі. Выступалі і Валянціна Коўтун, і я…

*(Закнчэнне на старонцы 8.)*







## Дарагія сябры "Нашага слова"!

У студзені мы атрымалі невялікую прыбаўку ў падпісцы. па ўсіх абласцях. Але прыбаўка вельмі нязначная, пры тым, што першы квартал найбольш аптымальны. Новага прытоку чытачоў, на жаль, не адбылося. Тым не менш, газета прадаўжае выходзіць, і ніякіх песняў жальбы не будзе. Мы былі, ёсць і мусім быць. Мы прадоўжым асвятляць дзейнасць арганізацый ТБМ па ўсёй краіне і друкаваць самыя розныя беларусацэнтрычныя матэрыялы.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 12 | 13 |
| Бяроза р.в. | 8 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 7 | 7 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | - | - |
| Івацэвічы р. в. | 2 | 2 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 2 | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | - |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 4 | 6 |
| Пружаны р.в. | 4 | 4 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **43** | **45** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 19 | 16 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 6 |
| Гарадок р.в. | - | 2 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | 1 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 18 | 18 |
| Орша гор. | 5 | 5 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 4 | 4 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **78** | **80** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 3 |
| Барысаў гор. | 3 | 3 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 6 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 7 | 5 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 2 | 2 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск | 6 | 6 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 168 | 167 |
| Менск РВПС | 11 | 10 |
| Маладзечна гор. | 8 | 9 |
| Мядзель р.в. | 2 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 4 |
| Нясвіж р.в. | 7 | 25 |
| Смалявічы р.в. | 4 | 4 |
| Слуцк гор. | 5 | 44 |
| Салігорск гор. | 3 | 3 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 4 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **248** | **303** |

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 15 | 15 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 11 | 13 |
| Жлобін гор. | - | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 1 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 1 | - |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **41** | **43** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 3 | 5 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Гародня гор. | 28 | 25 |
| Гародня РВПС | 14 | 14 |
| Дзятлава р.в. | 7 | 8 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 2 | 3 |
| Карэлічы р.в. | 1 | 1 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 1 | 3 |
| Астравец р.в. | 2 | 2 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 7 | 5 |
| Слонім гор. | 7 | 9 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 8 | 46 |
| **Усяго:** | **94** | **135** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 17 | 20 |
| Асіповічы гор. | 7 | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго** | **36** | **39** |
| **Усяго на краіне:** | **540** | **645** |

# Настаўніца, маці, руплівіца ТБМ

2 студзеня адзначыла 80-гадовы юбілей актывістка ТБМ, шматгадовая супрацоўніца менскай сядзібы Надзея Якаўлеўна Малаковіч.

Юбілярку сардэчна павіншавалі старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алена Мікалаеўна Анісім ды ганаровы старшыня арганізацыі Алег Анатольевіч Трусаў, і падзякавалі ёй за шматгадовую добрасумленную працу па прагандаванні беларускай мовы, дапамогу ў правядзенні вечарын і выстаў на сядзібе, па падтрымцы парадку пры правядзенні навучальных курсаў.

Спадарыня Надзея (у дзявоцтве - Бірук) нарадзілася на хутары Лазавічы Клецкага раёна Баранавіцкай вобласці ў шматдзетнай сям'і. Яна была апошнім, шостым дзіцём у Ганны Фёдараўны Лазукі і Якава Мікалаевіч Бірука.

Шмат жахлівых момантаў засталося ў памяці маленькай дзяўчынкі за часы вайны. Бацька Надзеі Якаўлеўны, які ўдзельнічаў у партызанскіх аперацыях, спілоўваючы тэлеграфныя слупы, загінуў ад рук фашысцкіх карнікаў. Пакуль сям'я аплаквала і хавала нябожчыка, хутар быў акружаны аўтаматчыкамі ў белых халатах…

У мамы быў парок сэрца і яна пражыла нядоўга. Гадавала Надзею старэйшая сястра. У 1951 годзе хутаран прымусілі ўступіць у калгас, шмат чаго з уласнай гаспадаркі давялося аддаць. У першым класе дзеці вучыліся ў маленькім дамку польскага настаўніка…

У 1954 годзе Надзея скончыла Кунцаўскую сямігодку Клецкага раёна, Баранавіцкай вобласці, а потым вучылася ў сярэдняй школе (з 8 па 10 клас) ў мястэчку Застравечча, дзе праходзілі падзеі Слуцкага збройнага чыну.

Яна ўладкавалася піянерважатай у вёску Забалацце, дзе адпрацавала 3 гады. Пасля двух гадоў працы, у 1960-тым годзе, Надзея паступіла на завочнае аддзяленне філфака БДУ і скончыла вучобу ў 1966 годзе. Яе дыпломную працу, якая мела назву "Янка Купала і беларуская народная песня" курыраваў Ніл Сымонавіч Гілевіч, а рэцэнзентам быў Алег Лойка.

Потым спадарыня Надзея перавялася ў Клецкі раён настаўніцай пачатковых класаў у Кумлеўскую школу. У тыя гады яна шмат часу ўдзяляла творам любімых пісьменнікаў - Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Кузьмы Чорнага і іншых.



У 1963 годзе спадарыня Надзея пабралася шлюбам з Леанідам Сціпанавічам Малаковічам, нарадзіла дачушку Святлану ў 1964 годзе і сына Аляксандра ў 1967 годзе. У 1963 годзе Надзея Якаўлеўна працавала ў вёсцы Ляплёўка на мяжы з Польшчай (Берасцейшчына). З 1964 па 1965 гг. працавала ў Вялікагадскай школе Бярозаўскага раёна, з 1965 па 1966 гг. настаўнічала ў школе рабочай моладзі ў г. Івацэвічы.



Каб стаж не перарваўся, значны час Надзея Якаўлеўна адпрацавала ў школе-інтэрнаце, а потым перайшла выхавацельнай ў дзіцячы садок на вул. Берасцянскай у Менску. Надзея Якаўлеўна Малаковіч працавала ў 106. 102, 112 і 137, 55 сярэдніх школах г. Менска, а таксама ў школе з беларускай мовай навучання № 143.

У 2001 годзе шаноўная настаўніца скончыла сваю педагагічную дзейнасць, і ў 2009 годзе яна стала валанцёрам ТБМ ды актыўным руплівіцам арганізацыі.

Больш за дзесяць гадоў спадарыня Надзея штодзённа сустракала з наведвальнікаў сядзібы, прапануючы газеты, часопісы і мастацкую літаратуру, паведамляла аб навінах менскай арганізацыі ТБМ.

Мілая ветлівая спадарыня Надзея ахвотна заводзіла гаворкі нават з выпадковымі гасцямі сядзібы, пераконваючы іх карыстацца мовай роднай зямлі, чытаць беларускую перыёдыку, выпісваць папулярныя гістарычныя часопісы, цікавіцца кніжнымі навінкамі, мець у хаце беларускія каляндары. Яе густоўныя вязаныя сукенкі радавалі вока. Яна ўпрыгожвала сядзібу букетамі кветак і стварала пазітыўны настрой у грамадскім памяшканні.

З гонарам брала ўдзел спадарыня Надзея ва ўрачыстасцях, прысвечаных 500-годдзю беларускага кнігадрукавання ў 2017 годзе. Заўсёды яна праяўляе цікавасць да літаратурных вечарын з удзелам вядомых беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў і краязнаўцаў і дапамагае ў правядзенні такіх імпрэз. Сябры клуба "Прамова" ўдзячны ёй за няспынны клопат.

Не аднойчы Н.Я. Малаковіч адпраўлялася ў вандроўкі па Беларусі і ў замежжа разам з моладдзю. Зараз Надзея Якаўлеўна ўдзяляе час уласнаму здароўю і адпачынку. Шаноўная настаўніца і руплівіца беларушчыны мае двух унукаў: Кірыла і Уладзіслава.

*"Якая ў нас сёння падзея*
*Святкуе радзіны Надзея,*
*Прышлі мы, сябры ТБМ,*
*Віншуем і зычым здароўя,*
*Паўсюль мы яе пазнаем.*
*На офісе - першай персонай*
*Усіх сустракае зрання,*
*На шэсцях - у першых калонах,*
*Паўсюль паспявае яна.*
*За вашу сумленную працу,*
*Адказнасць, адданасць і плён,*
*Ад усіх нас вам шчыры дзякуй*
*І нізкі сардэчны паклон!"*-

напісала ў сваім віншавальным вершы, прысвечаным юбілярцы Наталля Качаноўская.



***Э. Дзвінская,***
*фота аўтара*
*і з архіва*
*Н.Я. Малаковіч.*

# Гародня. ТБМ. Каляды.

На паседжанні апошняй абласной і гарадской Радаў ТБМ, па прапанове спадарыні Наталлі Карповіч, куратара беларускамоўных груп у трох дзіцячых садках Гародні (у 2019 годзе нас стала больш, да беларускіх груп д/с № 45 і № 65 далучылася беларуская група садка № 83 паблізу СШ № 32), віншаванні дзяцей перанеслі на Дзень роднай мовы - 21 лютага, а віншаванні беларускамоўных дзяцей у пачатковых класах пакінулі на пачатак Калядаў. Колькасць і якасць падарункаў для дзяцей звычайна вызначаецца ад сумы ахвяраванняў гарадзенцаў. За 2 тыдні сабралі 75 рублёў і на іх набылі ў беларускай краме "Адметнасць" на вуліцы Кірава каляндарыкі з малюнкамі і словамі на кожны дзень "Не маўчы па-беларуску" для кожнага беларускага класа пачатковых школ СШ № 32 і СШ № 34, канцылярскія тавары, тры вялікія тарты для першага беларускага класа СШ № 32.





Традыцыйна на Каляды дзеці рыхтуюць беларускія вершы, таму кожны атрымаў цукеркі фабрыкі "Камунарка", а нехта і два разы. На жаль, у Гародні выбар цукерак з надпісамі па-беларуску з "Камунаркі" і "Спартака" вельмі абмежаваны. Двое дзетак адсутнічалі на сустрэчы з ТБМ, але пасля выздараўлення яны атрымаюць ад класнага кіраўніка падарункі таксама. Сёлета гэта самы вялікі беларускі клас у СШ №32 за апошнія 10 гадоў - 13 чалавек.

Дзяцей у першым класе магло быць 15, каб адна матуля сваіх блізнят не перавяла ў вёску Путрышкі (побач з Гародняй), дзе для іх адмыслова адкрылі беларускі клас. Але няма ліха без дабра - адкрыліся два беларускія класы. Найбольшыя ахвяраванні ў гэтым годзе для беларускамоўных дзяцей Гародні зрабілі - Даніла Жукоўскі (50руб.) і Уладзімір Хільмановіч - набыў два тарты для дзяцей, а крама "Адметнасць" разам з "Цэнтрам гарадскога жыцця" падарыла 30 прыгожых калядных беларускамоўных налепак для малых дзетак. Зараз збіраем новыя беларускія кнігі для студзеньскай абласной алімпіяды па беларускай мове і літаратуры, якую гарадзенскае кіраўніцтва адукацыі перанесла з Гародні ў Скідзель.

**З Калядамі і Новым 2020 годам, шаноўныя сябры!**

Няхай усё дрэннае застанецца ў мінулым і не пяройдзе ў наступны год, а ўсё, створанае з любоўю, пашырaецца!

Адукацыйны моўна-культурны падмурак, на якім трымаецца канструкцыя "дома-дзяржавы" не пабудаваны самой дзяржавай, і ўсе ведаем чаму.

Але ўсе разам і паасобку, мы можам дапамагчы і штодня падштурхоўваць дзяржаўныя ўстановы (адэкватных чыноўнікаў), сваіх сяброў і знаёмых, найперш праз любоў да беларускамоўнай адукацыі, гісторыі і культуры гэты падмурак выбудоўваць, робячы немагчымае, робячы - як не бывае, робячы - як не робіць ніхто...

Шкада, што нехта з былых сяброў стаміўся і пачаў жыць толькі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, нехта вельмі хутка набіў мазалі, нехта страціў здароўе, у некага не хапіла духу і цярпення, бо хацеў усё адразу, нехта здрадзіў і збочыў на чужую хуткасную шашу, але значная частка засталася і працягвае ісці нялёгкай дарогай сваіх папярэднікаў, закладаючы цагліны ў паўразбураны беларускі культурны падмурак...

Дык, шукайма ўласную матывацыю на 2020 і наступныя гады, як гэта некалі рабілі чэхі і фіны, габрэі і палякі, а сёння - украінцы і казахі, татары і якуты.

Са Святамі!

*Намеснік старшыні Гарадзенскай абласной Рады ТБМ*
***Алесь Крой.***





# Пра беларускую мову...

**Вытрымка з гутаркі карэспандэнта “Нашай Нівы” Арцёма Гарбацэвіча з міністрам адукацыі Ігарам Карпенкам**

*“Наша Ніва” ўзяла інтэрв'ю ў міністра адукацыі Ігара Карпенкі. “Наша слова” друкуе вытрымку з другой часткі, якая датычыць беларускай мовы.*

**"Наша Ніва":** *“Скажыце, чаму на некаторыя лісты, адрасаваныя вам, па-хамску адказвае ваш супрацоўнік Андрэй Лазуткін?”*

**Ігар Карпенка:** “Гэта вы пра "Пахне чабор"? Ну тады накінуліся: "Не паставілі ў праграму!" Аказваецца, паставілі, але ў іншы клас. А тут лісты публічныя да міністра - я сёння адкрыты, калі мне прыходзіць ліст ад настаўніка ці прафесара, то я яму адказваю. Але чалавек не бяжыць у СМІ: "Я тут ліст міністру напісаў!" А я, як палічыў патрэбным, так і адказаў.

Вырашылі паштурхаць міністра, а міністр адбрыкнуўся. Я ж не магу забараніць карэспандэнту Лазуткіну пісаць у нейкіх сваіх фармулёўках. Гэта нейкая форма ідэалагічнага супрацьстаяння.

Але ведаеце, мяне заўсёды публічна папракалі ў тым, што я ненавіджу ўсё беларускае, што мне гэта чужое, што зараз Карпенка закапае ўсю беларушчыну.

Але я нідзе ніколі не выказваўся на гэтую тэму! Ніхто не прывядзе цытату, каб я сказаў: "Давайце забаронім беларускую мову" ці яшчэ нешта.

Вось на мяне Лемцюгова за беларускую лацінку на вуліцах апалчылася, ні разу са мной не гаварыла асабіста! Хаця я да яе вельмі добра стаўлюся, светлая ёй памяць.

Пытанне ў чым было? Ніхто не ўдакладніў у мяне, што я там канкрэтна пытаў на той тапанімічнай камісіі. А было як? Я задаў два пытанні: чаму мы транслітарацыю робім не англійскім гукавым шэрагам, гук "Ч" не як ch, а як c?

Чаму мы ў "Плошчы Перамогі" транслітаруем яшчэ і "плошчу", а не пішам square? Кітаец, японец, іспанец вучылі англійскую мову, прыехалі - не разумеюць нічога.

Вось у чым былі пытанні! Я абсалютна згодны, што ў нас усе тапонімы павінны быць на беларускай мове, у нас беларуская нацыянальная дзяржава!

Я вельмі паважліва да гэтага стаўлюся, нягледзячы на тое, што я нарадзіўся дзесьці там у Расіі. Дзякуй богу, я тут з 1974 года жыву, школу тут скончыў”.

**"Наша Ніва":** *“Дык вы беларус ужо ці яшчэ рускі? Як вы сябе адчуваеце?”*

**Ігар Карпенка:** “Я грамадзянін Рэспублікі Беларусь”.

**"Наша Ніва":** *“Гэта ясна, гэта па пашпарце. А адчуваеце як?”*

**Ігар Карпенка:** “Ведаеце, калі я прыязджаю на радзіму ў Новакузнецк ці нават у Маскву, мне здаецца, што я гавару па-руску, але мне кажуць, што я ўжо не па-руску размаўляю: акцэнт, недзе прарываюцца беларускія словы.

Калі ўжо разважаць, то жыву я ў гэтым асяродку, калі адкрываю "Нашу Ніву", чытаю яе па-



беларуску, хаця ёсць рускамоўная версія.

Дакументы ў мяне на розных мовах: па-беларуску, па-англійску бывае. Украінцы выключна па-ўкраінску дасылаюць, вось.

Ніколі, ні ў школе, ні ва ўніверсітэце, я не выказваўся супраць беларускай культуры ці мовы.

Традыцыі ў сям'і нашай - беларускія традыцыі. У жонкі польскія карані, у мяне рускія, сын у нас - беларус”.

**"Наша Ніва":** *“Дык што рабіць з выкладаннем беларускай мовы? Тут некалькі праблем: Беларусь - гэта адзіная славянская краіна, дзе навучанне не вядзецца на нацыянальнай мове. А другое - школьнікі, хаця і неяк вучаць мову, але гавараць не ўмеюць, яны там разбіраюцца, якой рыскай падкрэсліваць дзеепрыслоўі. Я вось дагэтуль не ведаю, як правільна, гэта няважна”.*

**Ігар Карпенка:** “Я нядаўна быў у Татарстане. І даведаўся, што яны прыбіраюць з абавязковай праграмы вывучэнне татарскай мовы. Гаварыў з высокімі чыноўнікамі і рэзюмаваў: гэта няправільнае рашэнне.

Так, нам цяжэй, мы і рускую, і беларускую ў школе вучым, больш часу трацім, плюс замежную мову, але так павінна быць, іншага быць не можа! Я абсалютна згодны з Макеем, што калі мы хочам захаваць нацыю, то трэба больш увагі надаваць беларускай мове.

Калі недзе былі канфліктныя сітуацыі, што не хочуць ствараць беларускамоўную групу ці клас, то мінстэрства ўмешвалася ў гэта. Пакуль што беларускамоўная адукацыя залежыць ад патрэбаў вучняў і іх бацькоў, трэба спакойна вырашаць гэтыя пытанні.

Так, ёсць пытанні з выкладаннем на беларускай мове ў ВНУ.

Мы пачалі і рэформу гуманітарнага блоку, таксама няпростая работа. Гэта ўсё ж з нагрузкай звязана, а тут з'явіліся модулі філасофіі і педагогікі, напрыклад: у школе скончылі курс гісторыі Беларусі, ва ўніверсітэце зноў вучыць, губляць час.

"Ну дык там на павышаным узроўні", - кажуць. Ну добра, на павышаным узроўні для гісторыка, а інжынеру трэба? З улікам таго, што перайшлі на чатырохгадовую адукацыю?

Але заўважце, мы моўную падрыхтоўку не ўзялі ў гэты блок. У нас застался "Беларуская мова, прафесійная лексіка", хаця таксама можна было задаць пытанне: "Ну ў школе ж вучылі, навошта яшчэ раз?".

Ва ўніверсітэтах трэба ствараць моўны асяродак. Мае аднакурснікі не дадуць схлусіць: у нас быў клуб "Нашчадкі" на гістарычным факультэце, вывучалі абрады, традыцыі, гукалі вясну, калядавалі і хадзілі ў зорныя паходы.

Я з гэтага клуба больш вынес, чым вывучаючы ва ўніверсітэце! У школе ж я не вучыў мову, а літаратуру вучыў.

І я, як міністр, падтрымліваю адукацыю на беларускай мове, але я супраць гвалтоўных метадаў, супраць даплачвання выкладчыкам за выкладанне на беларускай мове, напрыклад, трэба іншыя метады заахвочвання шукаць.

Раней вось нават у беларускамоўных школах дапаможны матэрыял быў па-руску. Мы праблему вырашылі: дадрукавалі метадычныя матэрыялы на беларускай мове. "Настаўніцкая газета" пабеларуску выходзіць”.

**"Наша Ніва":** *“Але пераклад выкладання гісторыі Беларусі і геаграфіі з нацыянальнай мовы на рускую адбыўся гвалтоўна. Што рабіць, як адкручваць?”*

**Ігар Карпенка:** “Ёсць рэкамендацыя міністэрства аб тым, каб выкладаць іх па-беларуску.

**"Наша Ніва":** *“Сэнс у такіх рэкамендацях, калі яны не выконваюцца? Мо варта адкруціць, вярнуць, як было, прымусова?”*

**Ігар Карпенка:** “Зноў будуць крытыкаваць”.

**"Наша Ніва":** *“Але вы ж не пераймаецеся крытыкай, як сказалі напачатку. Выкладанне гісторыі Беларусі па-беларуску пры Карпенку - магчыма такое?”*

**Ігар Карпенка:** “Я падтрымліваю, гэта не нешта з шэрагу вон. Трэба падумаць, як гэта санкцыянаваць. Я згодны, што пытанне нацыянальнай ідэнтычнасці не толькі для Беларусі востра. Сама Еўропа кажа: ёсць праблема захавання ідэнтычнасці. І трэба падтрымліваць сёння і мову, і культуру. Але гэта не толькі ад адукацыі залежыць. Сёння паўсюль англасаксонская дамінацыя, у Дортмундзе ўжо ўсе англійскую мову ведаюць!”

*Фота Надзеі Бужан.*

# Я так хачу, каб ты не сумавала!

Усю моц і веліч кахання да жонкі Вольгі ўклаў у паэтычныя радкі незвычайнай энергетыкі паэт Уладзімір Някляеў. Ёй ён прысвяціў шэраг вершаў і паэму "Калі мяне не стане". Маленькая, далікатная Вольга стала бясстрашнай гераіняй у снежні 2010 года, адстойваючы свабоду паэта і ўсіх закратаваных.

У калядная абстаноўцы паэт прэзентаваў сваю новую кнігу "Знічы кахання" ў кавярні "Грай" на 209-х занятках курсаў " Мова Нанова".

На вечарыне выступілі ўкладальніца кнігі Таццяна Працька і мастак-ілюстратар Уладзімір Вішнеўскі. Паэт падзяліўся таямніцай творчых адкрыццяў, роздумам пра паэзію Янкі Купалы, да якога ён звяртаўся ў думках, ствараючы раман пра Купалу.

Улетку Уладзімір Пракопавіч знаходзіўся ў шведскім універсітэцкім горадзе Лунд, знаёміўся з краінай, выступаў з чытаннем сваіх вершаў для шведскіх слухачоў. У снежні паэт удзельнічаў ў Менску ў акцыі пратэсту супраць паглыбленнай інтэграцыі з Расіяй.







Апошняя сустрэча ў гэтым годзе для наведвальнікаў курсаў была вельмі насычанай. На ёй таксама выступіў з кароткім словам акадэмік Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі. Завадатар і паспяховы вядоўца курсаў Глеб Лабадзенка заклікаў да збору сродкаў на кнігу ўспамінаў шаноўнага акадэміка.

- Для нас будзе гонарам выдаць такую кнігу! - падкрэсліў Глеб Лабадзенка.

На вечарыне з каляднымі спевамі выступіў гурт "Астроўна", для гасцей зайграў Яраш Малішэўскі. Зычэнні шчасця, дабрабыту ў Новым годзе , радасці і святла ў душах прагучалі з вуснаў выканаўцаў і вядоўцаў курсаў.

***Эла Дзвінская.***

На фота аўтара:
1. Глеб Лабадзенка і Уладзімір Някляеў;
2. У. Някляеў і Т. Працька;
3. Паэт і мастак-ілюстратар Уладзімір Вішнеўскі.

# ТБМ - каледжу

19 снежня 2019 г. у чарговы раз мяне запрасілі ў Магілёўскі дзяржаўны тэхналагічны каледж прачытаць лекцыю па гісторыі Магілёва. Паколькі добрая палова навучэнцаў установы не з нашага горада, а з мястэчак Магілёўшчыны і Беларусі, то нашу размову я пачаў з таго, што запытаў, хто адкуль прыехаў у Магілёў. І па кожным гарадку прывёў некалькі цікавых гістарычных фактаў, каб шкаляры ведалі і ганарыліся сваімі мясцінамі! Дзяўчына з Баранавіч сказала, што самае цікавае ў іх гэта помнік вераб'ю. Я распавёў пра Пакроўскую царкву пачатку 20 стагоддзя, дзе ёсць 7 мазаік, зробленых па эскізах Васняцова. Хлопцу з Рагачова звярнуў увагу на тое, што, акрамя славутай гісторыі гэтага горада, гэта яшчэ і мясціны славутага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча...



Калі распавядаў ужо пра сам Магілёў, то ў мяне была невялікая падборка фотаздымкаў, якія яскрава і цікава прэзентуюць помнікі архітэктуры і вядомых дзеячаў. Паэма Купалы "Магіла льва" і Машэка, Багаяўленскі манастыр і Спірыдон Собаль, Стэфан Баторый і ратуша, праваслаўная духоўная семінарыя і яе выпускнікі: І. Насовіч, У. Ігнатоўскі, А. Мрый, В. Шашалевіч, І. Грыгаровіч, К. Палікарповіч, Я. Багданоўскі... А паколькі каледж знаходзіцца ў Заднепроўі, то прыйшлося зрабіць экскурс і па Траецкім ды Лупалаўскім прадмесцях, дзе была Петрапаўлаўская і Траецкая царква, Чарнігаўскі тракт з брамай і мост Мікалая Ястржэмбскага. Па шчырасці сказаць, для дзвюх соцень чалавек цяжкавата чытаць лекцыю, бо замест дзвюх прыйшлі сем груп навучэнцаў. Але, як кажуць, "не прападзе наш скорбны труд..."

*Алег Дзьячкоў, Магілёў.*

# Дарагія сябры!



Рэктарат універсітэта імя Ніла Гілевіча віншуе ўсіх з Калядамі і Новым 2020-м годам і выказвае шчырую падзяку сп. Генадзю Лойку з Менска, сп. Леаніду Ралько з Баранавічаў, сп. Міколу Савулічу з м. Падсвілле, спн. Патрыётцы Беларусі з замежжа, сп. Паўловіч, спн. В.А. Крачкоўскай, сп. Паўлу Кізіку, якія ў снежні даслалі нам свае ахвяраванні. Таксама выказваем вялікую падзяку грамадзянам, якія ахвяравалі ў нашую бібліятэку разнастайную неабходную для ўніверсітэта літаратуру.

Ахвяраваць на працу ўніверсітэта можна пералічыўшы сродкі на наступныя рахункі:

ААТ "Белінвестбанк" BLBBBY2X (BIC) на Універсітэт імя Ніла Гілевіча УНП: 193050167. Асноўны рахунак: BY49BLBB30150193050167001001. Дабрачынны рахунак для ахвяраванняў: BY56BLBB31350193050167001001.

Таксама падтрымаць універсітэт можна праз сістэмы АРІП (Разлік), інструкцыя ёсць па гэтай спасылцы https://tbm-mova.by/news_2214.html. Любыя пытанні задавайце праз пошту nhuniversitet@gmail.com.

Вашыя грошы, у першую чаргу, пойдуць на аплату арэнды офіса ўніверсітэта і закупку падручнікаў для будучых студэнтаў.

З павагай і ўдзячнасцю,

в.а. рэктара Алег Трусаў.

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў студзені

Аверына Іна Віктараўна
Адаська Віктар
Акулін Эдуард
Акуліч Аляксандр
Алейнікаў Мікалай Сідаравіч
Алесіна Ганна Міхайлаўна
Аліева Марыя Рыгораўна
Аляхновіч Мікалай Мікал.
Андрасовіч Наталля Валянцін.
Андрыш Андрэй Антонавіч
Антаноўскі Мікалай
Антанюк Ян Ігнатавіч
Анціпенка Лявон Міхайлавіч
Апейка Марыя Фёдараўна
Аскірка Валянцін Фёдаравіч
Ашкінадзэ Аляксандра Аляк.
Ашуева Вера Яўгенаўна
Бабровіч Вера Грыгор'еўна
Баброў Яўген Ігаравіч
Багданкевіч Святлана Мікал.
Багданчык Таццяна
Бакіноўскі Валянцін
Баркоўская Настасся
Баркун Любоў Сяргееўна
Барткевіч Таццяна Фёдараўна
Барысаў Лявон Аляксеевіч
Барысевіч Аляксандр Вітольд.
Батуеў Павел
Батура Вольга Іванаўна
Бахір Алена
Белы Павел Аляксандравіч
Бернат Міхась Язэпавіч
Благачынны Фларыян Мікал.
Болбас Данута Вацлаваўна
Бохан Аліна Аляксандраўна
Булыга Міхаіл
Бурбоўская Алена Уладзімір.
Бяліцкая Ганна Сцяпанаўна
Бяльковіч Алена Тадэвушаўна
Бяляева Кацярына Уладзімір.
Вагапаў Цімур Фанузавіч
Варанцоў Міхаіл Ананіевіч
Варатынская Галіна Аляксан.
Варонька Ніна Адэльфонас.
Васілевіч Алена Канстанцін.
Віданава Ірына Аляксеўна
Вінаградаў Віталь
Вісловіч Эдуард Андрэевіч
Водзіч Таццяна
Водчыц Таццяна Мікалаеўна
Выбарнаў Аляксей Анатольев.
Вярбоўская Надзея
Гайдук Марыя
Галавач Яўген
Галай Вераніка Вячаславаўна
Галушко Сяргей Анатольевіч
Гапеева Вальжына Міхайлаўна
Гаравы Марат
Гарадко Галіна Станіславаўна
Гарачанкова Юлія Аляксанд.
Гарбачова Тамара Валер'еўна
Гардзіенка Ала Андрэеўна
Гасціловіч Уладзімір Всільевіч
Гацак Максім Віктаравіч
Гедроіць Аляксандр Генадзев.
Герасёва Таццяна Андрэеўна
Герман Таццяна Арсенцьеўна
Гільвей Валянціна
Грышкевіч Лявон Іосіфавіч
Грэбень Раіса
Грэбянко Аляксей Уладзімір.
Гундзер Мацвей Уладзімір.
Гурков Каміла Мсціслава Ал.
Гурская Людміла
Гусарэвіч Максім Фёдаравіч
Данільчык Валянцін Максім.
Дашкевіч Віктар Мікалаевіч
Дварэцкі Аляксей Вадзімавіч
Дварэцкі Андрэй Вадзімавіч
Дзям'янаў Аляксандр Уладзім.
Дзям'яненка Юлія Яўгенаўна
Доўнар Павел Віктаравіч
Драздоў Уладзімір
Дранжкевіч Марыя
Дробаў Іван Міхайлавіч
Дубовік Ганна Уладзіміраўна
Дуброўская Наталля
Дудзянкоў Міхаіл Валер'евіч
Дунецкі Анатоль Пятровіч
Дычок Рэгіна Янаўна
Езавіт Т. В.
Елісееў Андрэй
Ефімовіч Аляксандр Вячасл.
Ефімоўская Дана
Жарнасек Ірэна Францаўна
Жук Аляксандр Мікалаевіч
Жылінская Святлана
Жынь Канстанцін Уладзімір.
Заіка Зоя Міхайлаўна
Закрэўская Ніна
Зарубава Ганна Уладзіміраўна
Захарава Кацярына Алякс.
Збароўскі Эдуард Іосіфавіч
Здановіч Ніна Іванаўна
Землякова Ала Максімаўна
Зімніцкая Ганна Ігараўна
Зімніцкі Леанід
Зорына Любоў Міхайлаўна
Зубар Марына Уладзіміраўна
Зылеў Уладзіслаў Дзянісавіч
Іванковіч Уладзімір Уладзімір.
Івановіч Кацярына Анатол.
Іваноў Віталь Юр'евіч
Ігнатчык Алег Уладзіміравіч
Іпатава Вольга Міхайлаўна
Кабышаў Зміцер
Кавальчук Таццяна Юр'еўна
Казак Валянціна
Казак Галіна Сцяпанаўна
Казак Міхась Мікалаевіч
Казак Сяргей Іванавіч
Казлоўскі Алег Феліксавіч
Калесніковіч Максім
Калінка Святлана Міхайлаўна
Каліноўская Марыя
Калоднікава Алена Валянцін.
Калядка Іна
Канопкіна Таццяна Станіслав.
Канус Марыя Іванаўна
Капарыха Мікалай Уладзімір.
Капуста Алена Міхайлаўна
Карабан Станіслаў Вацлавіч
Каралёнак Мікалай Мікалаев.
Каратчэня Іван Адамавіч
Карней Ігар Пятровіч
Кароль Вольга Мікалаеўна
Карповіч Уладзімір Леанідавіч
Картузава Яўгенія Юр'еўна
Карэнька Людміла Мікалаеўна
Каспяровіч Ілля Алегавіч
Касцееў Антон Сяргеевіч
Касьян Марыя Віктараўна
Кашнікава Кацярына Сярг.
Кашчэева Людміла
Каяла Уладзімір Іванавіч
Кізееў Ігар
Кісель Таццяна Аляксандр.
Клімашонак Віталь Алегавіч
Кліменценка Святлана Ульян.
Клімуць Яраслаў Іванавіч
Клямята Уладзімір Антонавіч
Кніга Галіна
Кожан Кліменцій Арсенавіч
Козел Алена Аляксандраўна
Коласава Алена Аляксандр.
Корнеў Павел Іванавіч
Котаў Павел Аляксандравіч
Красоўская Таццяна Мікал.
Красоўскі Лявон Мікалаевіч
Красоцкі Ян
Краўчук Ала
Крол Вера Сяргееўна
Крывальцэвіч Мікола
Крывой Яраслаў Віктаравіч
Крыж Сяргей Аляксандравіч
Кузьмянкоў Генадзь Адамавіч
Кулік Анатоль Міхайлавіч
Кулінковіч Алена Анатольеўна
Курцова Вераніка Мікалаеўна
Курчанава Ларыса Вітальеўна
Куцэпаленка Яўген
Лабанава Наталля Андрэеўна
Лабоха Канстанцін Валянцін.
Лагвінец Аляксандр Іванавіч
Лаеўскі Дзяніс Уладзіміравіч
Лазарэнкаў Валянцін Дзмітр.
Лазюк Аляксандр
Лакішык Аляксей Рыгоравіч
Ларычаў Алег Васільевіч
Лашук Алег Пятровіч
Ліпскі Канстанцін Аляксеевіч
Лісоўскі Дзмітры
Ліцкевіч Наталля
Ліцьвінчук Анатоль
Лобан Павел Міхайлавіч
Лобец Алесь Паўлавіч
Лукашэнка Антон Уладзімір.
Луцэвіч Аляксандр Сяргеевіч
Лысенак Р.В.
Лысы Аляксандр Уладзімір.
Люліна Алена Канстанцінаўна
Лявончык Алена Рыгораўна
Магалінскі Ігар Уладзіміравіч
Магучава Таццяна Васільеўна
Магучая Галіна
Малаковіч Надзея Якаўлеўна
Маліноўскі Лявон Яўгенавіч
Малышава Людміла Яўгенаўна
Малышка Іпаліт Міхайлавіч
Малышчыц Ларыса Канстанц.
Малюк Марына Мікалаеўна
Маляўка Марыя
Маркоўская Кацярына Мікал.
Мароз Аксана Пятроўна
Мароз Таццяна Леанідаўна
Марцынкевіч Марыя
Масакоўскі Генадзь Уладзім.
Масакоўскі Уладзімір Генадз.
Мацюшава Яна Аляксандр.
Мельнікаў Юры Леанідавіч
Мільнова Таццяна Мікалаеўна
Мінько Марына
Місілевіч Ксенія Аляксандр.
Міхалёва Варвара
Міхалькевіч Людміла Мікал.
Міханчык Нэлі
Міхно Іна Станіславаўна
Міцкевіч Людміла Сямёнаўна
Мішкель Станіслаў
Мішкоў Яўген
Музычэнка Андрэй Мікал.
Муша Уладзімір Мікалаевіч
Мялешка Віктар Александр.
Наваградскі Мечыслаў Аляк.
Навахрост Кацярына
Навуменка Валянціна Мікал.
Нагорны Юры Аляксандравіч
Нашчынец Канстанцін Мікал.
Нікалаеў Аляксандр Яўгенавіч
Нікіцін Аляксандр Аркадз.
Новік Міхась Фаміч
Норка Алеся
Падабед Аляксандр
Падгайская Галіна Сяргееўна
Палубінская З. Г.
Панкратава Наталля Сярг.
Панчук Арцём Аляксандравіч
Паплеўка Юлія Юр'еўна
Патаранскі Сяргей Сяргеевіч
Паўлючук Антон
Пашкевіч Ілона Іосіфаўна
Пісарэнка Аляксандр Васіл.
Пляхневіч Тамара
Пракаповіч Наталля Фёдар.
Пракурат Яўген Андрэевіч
Пратасаў Мікалай
Пратасеня Юры Аляксандр.
Прымака Васіль Дзмітрыевіч
Прыхач Віталь Іванавіч
Прышчыц Валянціна Сцяпан.
Псурцава Галіна Аляксандр.
Пясецкі Генадзь Леанідавіч
Пячкоўскі Франц Уладзімір.
Рабянок Дзяніс
Радзюк Міхаіл Міхайлавіч
Раковіч Аксана Уладзіміраўна
Рамановіч Вераніка
Ролік Анісій Нікадзімавіч
Роўкач Андрэй
Рудзіч Алена
Руцкая Алена Вітальеўна
Рымша Сяргей
Сабініна Лілія Іванаўна
Савельеў Зміцер Віктаравіч
Савуліч Мікалай
Самонаў Алесь Іванавіч
Самуйлік Яўген Рыгравіч
Сарокін Андрэй Віктаравіч
Саскевіч Алена Мікалаеўна
Саханчук Сцяпан Савельевіч
Свентахоўская Валянціна Міх.
Свістунова Алеся Аляксандр.
Семянчук Альбіна
Сівіцкі Уладзімір Уладзімір.
Сіповіч Святаслаў Іосіфавіч
Сірота Вінцэнт Уладзіміравіч
Сітніца Рыгор
Скамейка Сяргей Кузьміч
Скрабатун Уладзімір Іванавіч
Скрыпко М.А.
Снітко Вера
Снітко Тамара
Стагначоў Уладзімір Фёдар.
Судак Вікторыя
Суша Тамара Мікалаеўна
Сушчэня Анатоль
Сцепанчук Надзея Уладзімір.
Сытая Таццяна
Сяргейчык Аляксей Мікал.
Тамашоў Мікалай Васільевіч
Тамашэвіч Аляксандр Уладз.
Тамашэвіч Тамаш Іосіфавіч
Тарасевіч Тамара Сафронаўна
Трухін Уладзімір Фёдаравіч
Украінка Сяргей Сяргеевіч
Фёдарава Вольга Дзмітрыеўна
Фёдарава Лілія
Федаровіч Святлана Міхайл.
Федзюшка Надзея
Фядотаў Феакціст Фёдаравіч
Хадановіч Маргарыта Міх.
Хадоркін Мікола Фёдаравіч
Хамайда Барыс Ханонавіч
Хамец Міхась Дзмітрыевіч
Харкова Аляксандра Дзмітр.
Харытончык Надзея Іванаўна
Хмараў Сяргей Рыгоравіч
Хомка Вячаслаў Міхайлавіч
Храпавіцкі Станіслаў Іванавіч
Царкова Ніна Канстанцінаўна
Цітоў Ігар Віктаравіч
Ціхачова Ганна Андрэеўна
Цыбульская Людміла Віктар.
Цяцеркін Мікалай Яўгенавіч
Чайка Сяргей
Чаркасава Любоў Восіпаўна
Чарных Наталля
Чарнякова Вольга
Чачотка Анатоль Ільіч
Чцепанчук Міхаіл Уладзімір.
Чырэка Алесь
Шаклач Таццяна
Шафарэнка Мікалай Мікал.
Швец Алена
Шкель Аліса Ігараўна
Шунько Наталля Фёдараўна
Шыбека Аляксандр Сяргеевіч
Шыдлоўская Ніна Анатол.
Шыман Дзмітры Валянцін.
Шыманец Алена
Шышко Вадзім Аляксандравіч
Юранкова Марыя Віктараўна
Юхневіч Яўген Аляксандравіч
Юхнель Мікалай Мікалаевіч
Якавенка Яўген Яўгенавіч
Якалцэвіч Марыя Антонаўна
Якушава Аліна Мікалаеўна
Янушкевіч Леанід
Ярашук Глеб Алегавіч
Ярашэвіч Галіна Андрэеўна
Яўмененка Мікалай Алякс.
Яўсеенка Жана
Яцкевіч Уладзімір Антонавіч





# Івану Чыгрынаву - 85 год !!!

17 снежня 2019 г. у абласной бібліятэцы г. Магілёва адбыўся літаратурны экскурс "З Вялікага Бора - у вялікае жыццё" да 85-годдзя з дня нараджэння Народнага пісьменніка Івана Чыгрынава, ураджэнца Магілёўшчыны.

Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў нарадзіўся 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля чарнобыльскай трагедыі яго родная вёска апынулася ў зоне радыёактыўнага забруджвання і перастала існаваць.

Выхоўваўся хлопчык у простай сялянскай сям'і: яго бацька працаваў старшынём сельсавета, маці - звычайная калгасніца. У сям'і было восем дзяцей, і ўвесь цяжар па выхаванні дзяцей лёг менавіта на плечы маці. Бацька больш займаўся грамадскімі справамі. З набліжэннем гітлераўцаў падаўся за лінію фронту. Ваеннае ліхалецце пераЖЫЎ, але да сям'і не вярнуўся.

Іван Чыгрынаў належыць да пакалення, у якога вайна прайшлася па самай светлай і радаснай пары жыцця - дзяцінстве. У сваіх творах "Бульба", "За сто кіламетраў на абед", "Ішоў на вайну чалавек", "У цхім тумане", "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві" Чыгрынаў імкнуўся паказаць праўду таго суровага і гераічнага часу, праўду, якая адкрылася яго пакаленню, узгадаванаму вайной і балючай памяццю пра яе. Іван Чыгрынаў перадаваў сваё дзіцячае ўспрыняцце вайны, той жах, калі ты шмат чаго не ведаеш, і знаходзішся ў прыгаломшаным стане, адчуваючы, што ў любую секунду можаш ні за што загінуць сам.

У 1940 годзе хлапчук пайшоў у першы клас Велікаборскай семігодкі. Фашысцкая акупацыя перапыніла вучобу, але пасля вызвалення Магілёўскай вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў будучы літаратар зноў сеў за школьную парту і ў 1949 годзе паспяхова скончыў сямігодку. Далей Іван Чыгрынаў пайшоў вучыцца ў Саматэвіцкую сярэднюю школу, якую закончыў значна раней другі народны пісьменнік Беларусі - Аркадзь Куляшоў. Хлопец вельмі адказна ставіўся да вучобы. А як жа інакш, калі ў гэтай школе вучыўся сам аўтар паэмы "Сцяг брыгады".

Яшчэ ў школе юнак захапіўся літаратурай, сам пачаў спрабаваць пісаць вершы. Пасля заканчэння сярэдняй школы Іван Чыгрынаў паступіў на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ.

рыйнага тэлефільма "Руіны страляюць", пастаўленага ў 1973 годзе. За працу над гэтым сцэнарыем ён атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. Праз дваццаць гадоў за дасягненні ў літаратуры Іван Чыгрынаў удастоены звання Народнага пісьменніка Беларусі.

Доля адмерала яму толькі 61 год і 15 дзён зямнога жыцця. Па сённяшніх мерках гэта ўвогуле не багата. Памёр ад хваробы. У літаратуры ён актыўна працаваў тры з паловай дзесяцігоддзі і здабыў шырокае сусветнае прызнанне. Гэты адметны празаік, які стварыў сваю, ні на чыю не падобную прозу пра вайну.

Імя Івана Чыгрынава прысвоена вуліцы ў Магілёве, Касцюковіцкай раённай бібліятэцы. У Мінску на доме №29 па вуліцы Пуліхава, у якім жыў народны пісьменнік, і ў Магілёве на будынку сярэдняй школы №6 на вуліцы Івана Чыгрынава ўсталяваны мемарыяльныя дошкі.

На літаратурнай імпрэзе супрацоўнікі абласной бібліятэкі цікава і грунтоўна распавялі пра творчы і жыццёвы лёс Івана Чыгрынава. Падрыхтавалі змястоўную фота- і відэапрэзентацыю. Аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры арганізаваў выставу кніг пісьменніка. Святлана Клімава з удзельнікамі імпрэзы падзялілася сваімі ўспамінамі аб сустрэчы ў Касцюковічах з Іванам Гаўрылавічам і паказала сваю ўласную кнігу з аўтографам празаіка.







Вялікі пласт творчай працы Івана Гаўрылавіча - яго драматургія, якая вызначаецца драматычнай напружанасцю. Ён аўтар п'ес "Дзівак з Ганчарнай вуліцы", "Следчая справа Вашчылы", "Чалавек з мядзведжым тварам", "Звон - не малітва", "Толькі мёртвыя не вяртаюцца", "Прымак". Ствараў Чыгрынаў п'есы і па сваіх раманах "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужынцы". Таксама ён перакладчык "Слова пра паход Ігаравы", п'ес "На дне" Максіма Горкага і "Аптымістычная трагедыя" Усевалада Вішнеўскага. Прымаў пісьменнік удзел і ў стварэнні сцэнарыя шматсе-

Напрыканцы мерапрыемства старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны г. Магілёва Алег Дзьячкоў ад імя дачкі пісьменніка Алены Чыгрынавай падараваў прыгожую кнігу для фондаў бібліятэкі. Варта таксама адзначыць, што ў красавіку гэтага года сябры нашай арганізацыі зладзілі краязнаўчую вандроўку на радзіму Народнага паэта Аркадзя Куляшова і Народнага пісьменніка Івана Чыгрынава ў Саматэвічы і Вялікі Бор. Вялікі дзякуй супрацоўнікам абласной бібліятэкі за літаратурную вечарыну.

*Наталля Шэмянкова,*
*Магілёў.*

# Беларускія энцыклапедыі - сведчанне спеласці нацыі

Многія народы існавалі і існуюць у свеце, але не ўсе з іх дайшлі да высокай ступені нацыянальнай свядомасці і фарміравання ўласнай ідэнтычнасці, свайго светабачання, якое ў сістэматызаваным выглядзе паўстае праз універсальную энцыклапедыю.

І беларусы такі погляд маюць, ім ёсць за што змагацца і што бараніць. Яны могуць ганарыцца сваімі інтэлектуальнымі здабыткамі, адлюстраванымі ў энцыклапедыях.

Пра гэтыя кнігі можна даведацца на выставе "Энцыклапедыя. Нацыянальны праект", прысвечанай 50-годдзю стварэння першай беларускай універсальнай энцыклапедыі, у Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі.

- Максім Танк сказаў: "Дзяржаўным народам можа лічыцца той народ, які мае сваe герб, гімн, сцяг, буквар і энцыклапедыю. Уніфікаваныя, структураваныя звесткі пра ўвесь свет, сабраныя ў энцыклапедыі, пра краіны, народы і гарады, важны для грамадскіх і навуковых працэсаў. Здольнасць народа асэнсаваць свае месца і ролю ў свеце і свет вакол сябе, і ёсць разуменнем сваёй нацыянальнай вартасці і сталасці, - адзначыў, адкрываючы выставу, А.А. Суша.

Супрацоўніцы навукова-даследчага адзела кнігазнаўства Ксенія Суша і Таццяна Захарава распавялі гасцям пра прадстаўленыя на выставе старажытныя энцыклапедыі ад антычных часоў да сучаснасці, пачынаючы з "Натуральнай гісторыі" Плінія ў Ліёнскім выданні XVI стагоддзя, прадэманстравалі кніжны шэдэўр эпохі асветніцтва - французскую "Энцыклапедыю, ці Тлумачальны слоўнік мастацтваў і рамёстваў" Дэні Дзідро (1751 -1780), самую аўтарытэтную энцыклапедыю на англійскай мове "Брытаніку" (1875-1888 гадоў), нямецкую "Энцыклапедыю Бракгаўза" (Германія, 1882- 1887 гадоў), універсальныя энцыклапедыі Польшчы, Чэхіі, Расіі, Літвы і іншыя.

Гледачы з цікавасцю пачулі пра першыя спробы стварэння беларускай энцыклапедыі ў 20-30-я і ў 50-тыя гады. Па дакументах, фотаздымках, творчых і працоўных матэрыялах яны даведаліся пра працу калектыва беларускіх энцыклапедыстаў пад кіраўніцтвам рэдактара Пятра Усцінавіча Броўкі над выданнем юбілейнай, першай у гісторыі Беларусі "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" (1969 - 1975 гадоў) і нацыянальнай універсальнай энцыклапедыі суверэннай дзяржавы "Беларуская Энцыклапедыя" ў 18 тамах (1999 - 2004 гадоў.)

Успамінамі падзялілася адна са старэйшых супрацоўніц выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", Соф'я Пятроўна Самуэль:

- Я прыйшла ў рэдакцыю Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ў 1969 годзе, калі ішла праца над першым томам. Сталая праца была добра арганізавана адукаваным калектывам на чале з Пятром Усцінавічам Броўкам. Ён быў добрым кіраўніком, умеў весці рэдакцыйны карабель са 150 чалавек, клапаціўся не толькі пра коскі і кропкі, але і пра дабрабыт супрацоўнікаў, пабудаваў для ўсіх нас пяціпавярховы дом.

Працаваць над артыкуламі і складаць слоўнікі было вельмі нялёгка! Дзяржава дала грошы на першыя тамы, а потым мы навучыліся зарабляць на навукова-папулярнай літаратуры, - успамінае С.П. Самуэль.

Мы звярнуліся да спецыяліста, які сёння займаецца вывучэннем шматлікіх даведачных тамоў.




- Па беларускіх універсальных энцыклапедыях я пішу кандыдацкую дысертацыю, - распавяла Ксенія Суша. - Энцыклапедыя ўспрымаецца як тэкст культуры, вывучаецца, як культура адлюстравалася ў гэтым тэксце, і як пасля энцыклапедыя ўплывала на культуру. Я разглядаю нацыянальны, ідэалагічны і каштоўнасны аспекты. Стараюся прасачыць, каб тэкст успрымаўся не толькі даведнікам, але і крыніцай светапогляду, які навукоўцы транслíравалі ў масы.

*- Ксенія Віктараўна, скажыце, калі ласка, як праз дзейнасць бібліятэкі Вы папулярызуеце карыстанне энцыклапедыямі сярод старэйшых школьнікаў, студэнтаў, аспірантаў?*

- Калі я толькі пачынала працаваць у





аддзеле рэдкай кнігі і старадрукаў, мяне вучылі, калі прыходзіць чытач з запытам па пэўнай тэме, то трэба звярнуцца ў першую чаргу да энцыклапедыі. Энцыклапедыі карыстаюцца попытам, у наш век інтэрнэту яны не згубілі сваёй актуальнасці, але надышла пара нашы ўніверсальныя энцыклапедыі - савецкую і беларускую - адлічбаваць і выкласці ў інтэрнэт у зручным выглядзе.

*- Вы ўдзельнічаеце ў выданні зборніка "Здабыткі: дакументальныя помнікі Беларусі"?*

- Гэты зборнік прысвечаны кніжнай культуры Беларусі, і мы запрашаем аўтараў удзельнічаць, адкрываць нявядомыя старонкі нашай культуры і з вялікім задавальненнем публікуем цікавыя матэрыялы. Штогод мы праводзім Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні, друкуем матэрыялы канферэнцыі.Там бывае шмат цікавых выступленняў і новых знаходак!

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

На здымках: 1. Соф'я Пятроўна Самуэль. 2. Ксенія Суша.

# Юбіленыя і памятныя даты 2020 года

**Студзень**

**1 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэнн **Вольгі Іпатавай** (1945), беларускай пісьменніцы, перакладчыцы.

**1 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Лявона Шырына** (1930, Слуцкі р-н), паэта.

**10 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Капуцкага** (Маладзечанскі р-н), вучонага-хіміка, акадэміка НАН Беларусі, Заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі

**14 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Міколы Аўрамчыка** (1920-2017), паэта, празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Беларусі.



**14 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Вадзіма Спрынчана** (1950), беларускага паэта, перакладчыка.

**15 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Георгія Пакроўскага,** аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Менскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза.

**20 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Галіны Бальчэўскай** (Мядзельскі р-н), актрысы, Заслужанай артысткі Беларусі.

**21 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння) **Юрыя Станкевіча** (Барысаў), пісьменніка.

**26 студзеня** - 30 гадоў таму Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон **"Аб мовах Беларускай ССР".**

**28 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Дайнэкі** (1940-2019), беларускага пісьменніка.

**30 студзеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Кірылы Арлоўскага** (1896-1968), Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы.

**Люты**

**1 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Фелікса Марцінкевіча** (1920 -1992), эканаміста, акадэміка АН БССР.

**3 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Арнольда Ранцанца**, артыста аперэты, спявака, Заслужанага артыста Беларусі і Украіны, лаўрэата прэміі імя Л. Александроўскай.

**5 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Расціслава Янкоўскага**, акцёра, народнага артыста Беларусі і СССР, акадэміка Міжнароднай акадэміі тэатра.

**8 лютага** - 210 гадоў з дня нараджэння **Івана Хруцкага** (1810-1885), беларускага жывапісца, акадэміка жывапісу, прызнанага майстра нацюрморту, партрэтыста, аўтара пейзажаў, алтарных карцін, абразоў.

**9 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Тараса**, беларускага пісьменніка.

**14 лютага** - 220 гадоў з дня нараджэння) **Валенція Вільгельма Ваньковіча** (Бярэзінскі р-н), жывапісца, аднаго з найбольш значных беларускіх мастакоў XIX ст.

**15 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Сахуты** (Стаўбцоўскі р-н), мастацтвазнаўца, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Міністэрства культуры Беларусі

**16 лютага** - 125 гадоў з дня нараджэння **Франца Кушаля** (1895 - 1968), беларускага ваеннага і палітычнага дзеяча.

**19 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Антонава**, спявака, кампазітара, творчая дзейнасць якога пачыналася на Беларусі, Заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі.

**20 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Таісы Бондар** (г.п. Рудзенск), пісьменніцы, перакладчыцы.

**24 лютага** - 85 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Барадуліна** 1935-2014), Народнага паэта Беларусі.

**25 лютага** - 85 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Лыча** (Уздзенскі р-н), вучонага ў галіне эканомікі, акадэміка НАН Беларусі, Заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**25 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Пятра Прыходзькі**, беларускага паэта.

**26 лютага** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Пузыні** (1940 - 2012), музыкі, майстра народных музычных інструметаў.

**Сакавік**

**1 сакавіка** - 75 гадоў з дня заснавання **Беларускай дзяржаўнай харэаграфічнай гімназіі-каледжа.**

**3 сакавіка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Льва Шчэрбы**, мовазнаўца.

**4 сакавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Вінцука Адважнага**, паэта.

**5 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Аляксандр Кавалені**, вучонага-археолага Беларусі.

**7 сакавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Васіля Раінчыка** (1950), кампазітара, піяніста, музычнага і грамадскага дзеяча, народнага артыста Беларусі.

**8 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Яраслава Пархуты** (1930-1996), беларускага пісьменніка.

**10 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Марачкіна**, мастака, жывапісца.

**11 сакавіка** - 245 гадоў з дня нараджэння **Васіля Анастасевіча**, бібліёграфа, перакладчыка, выдаўца, які ажыццявіў навуковае выданне Статута ВКЛ 1588 г.

**14 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Івана Валадзько** (Менскі р-н), архітэктара.

**15 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Жарэса Алфёрава**, вучонага-фізіка, акадэміка АН Расіі, замежнага члена НАН Беларусі, АН Германіі, Польскай АН, Нацыянальнай інжынернай АН ЗША, Нацыянальнай АН ЗША, лаўрэата Нобелеўскай прэміі.

**15 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Ірыны Шыкуновай** (Любанскі р-н), артысткі оперы, педагога, Народнай артысткі Беларусі, акадэміка Міжнароднай АН Еўразіі

**17 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Хведара Ільяшэвіча**, паэта.

**17 сакавіка** - 30 гадоў ад пачатку выхаду газеты ТБМ **"Наша слова".**

**21 сакавіка** - 180 гадоў з дня нараджэння **Францішка Багушэвіча** (1840-1900), пісьменніка, публіцыста, перакладчыка, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.



**22 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Пысіна**, беларускага паэта.

**22 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Пятра Кухарчыка** (Клецкі р-н), вучонага ў галіне радыёфізікі, члена-карэспандэнта НАН Беларусі.

**23 сакавіка** - 155 гадоў з дня нараджэння **Старога Уласа** (сапр. Сівы-Сівіцкі Уладзіслаў Пятровіч, Валожын), паэта, фалькларыста.

**23 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Васіля Сташэўскага** (Капыльскі р-н), пісьменніка, грамадскага дзеяча.

**23 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Бурака** (Вілейскі р-н), мовазнаўца, Заслужанага работніка адукацыі Беларусі.

**26 сакавіка** - 60 гадоў з дня нараджэння **Віктара Шніпа** (Валожынскі раён) - беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**28 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Мархеля** (1940 -2013), літаратуразнаўца, перакладчыка.

**30 сакавіка** - 120 гадоў з дня раджэння **Уладзіміра Вашкевіча** (1900 - 1970), генерал-палкоўніка.

**Красавік**

**1 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Басальгі**, мастака.

**2 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Гусака**, крытыка, літаратуразнаўца.

**4 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Віктара Карзюка** (Валожынскі р-н), вучонага-матэматыка, члена-карэспандэнта НАН Беларусі, Заслужанага работніка адукацыі Беларусі

**6 красавіка** - 65 гадоў з пачатку выдання **"Голаса Радзімы"**, штотыднёвай газеты для суайчыннікаў за межамі Беларусі.

**7 красавіка** - 270 гадоў з дня нараджэння **Рамуальда Тадэвуша Гедройца** (1750-1824), генерал-маёра ВКЛ, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1794 г.

**7 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Васіля Протчанкі**, доктара педагагічных навук.

**14 красавіка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Дылы** (Слуцк), пісьменніка, тэатразнаўца, грамадскага дзеяча.

**14 красавіка** - 135 гадоў з дня нараджэння **Сымона Рак-Міхайлоўскага** (Маладзечанскі р-н), грамадска-палітычнага дзеяча, публіцыста, педагога.

**14 красавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Карпюка** (1920-1992), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі, удзельніка партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну -

**15 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Расціслава Платонава** (Слуцк), гісторыка, археографа, публіцыста.

**18 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Ханка**, кампазітара.

**23 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Віктара Казько** (1940), пісьменніка, кінасцэнарыста.

**25 красавіка** - 100 гадоў таму пачалася **савецка-польская вайна**, якая доўжылася да 12 кастрычніка 1920 г.

**27 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Мая Данцыга**, жывапісца, народнага мастака Беларусі, Заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**27 красавіка** - 75 гадоў з часу ўступлення Беларусі ў склад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый

**28 красавіка** - 145 гадоў з дня нараджэння **Эдварда Малішэўскага**, польскага гісторыка, бібліёграфа, аўтара краязнаўчых прац, у тым ліку даведнікаў па Гарадзенскай, Менскай і Віленскай губернях

**Травень**

**1 траўня** - 435 гадоў з дня нараджэння **Соф'і Слуцкай** (Слуцк), рэлігійнай дзяячкі, асветніцы, беларускай праваслаўнай святой.

**1 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Алеся Петрашкевіча**, драматурга, пісьменніка, публіцыста, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

**5 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Апанаса Пятровіча Цыхуна**, Заслужанага настаўніка Беларусі.

**6 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Ліпскага** (1940), беларускага пісьменніка, ініцыятара правядзення і старшыні журы Усебеларускага фестывалю народнага гумару ў Аўцюках, Заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**6 траўня** -70 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Уладзіміра Мясніковіча**, дзяржаўнага дзеяча Беларусі.

**8 траўня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Місевіча**, беларускага эстраднага музыканта, удзельніка ВІА "Песняры"; аднаго з заснавальнікаў і ўдзельнікаў ВІА "Беларускія песняры".

**8 траўня** - 35 гадоў з часу адкрыцця архітэктурна-скульптурнага комплексу "Мінск - горад-герой".

**9 траўня - Дзень Перамогі**, 75 гадоў з часу заканчэння Вялікай Айчыннай вайны 1941-1945 гг.

**9 траўня** - 10 гадоў з дня адкрыцця экспазіцыі першага Музея гісторыі Першай сусветнай вайны ў **в. Забродзе** Вілейскага раёна.

**9 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Цэдрыка** (Бярэзінскі р-н), вучонага-фізіка і педагога, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі.

**13 траўня** - 115 гадоў з дня нараджэння) **Стэфаніі Станюты**, актрысы, народнай артысткі Беларусі, акадэміка Міжнароднай акадэміі тэатра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі

**18 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Яна Арцёмавіча Чыквіна**, паэта, філолага.

**22 траўня** - 550 гадоў з дня нараджэння **Міколы Гусоўскага**, аўтара паэмы "Песня пра зубра".

**27 траўня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Жылкі** (1900-1933), беларускага паэта.

**28 траўня - 60 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Аркуша**, (г. Жодзіна) - беларускага паэта, эсэіста, выдаўца.

**30 траўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Труса** (Уздзенскі р-н), акцёра, Народнага артыста Беларусі.

**Чэрвень**

**2 чэрвеня** - 210 гадоў з дня нараджэння **Івана Пятровіча Барычэўскага**, гісторыка.

**3 чэрвеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Васіля Зуёнака** (Крупскі р-н), паэта, крытыка, літаратуразнаўца, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы.

**6 чэрвеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Дударава** (1950), беларускага драматурга, сцэнарыста, тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**7 чэрвеня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Вацлава Леанардавіча Іваноўскага**, палітычнага і грамадскага дзеяча, доктара тэхнічных навук.

**7 чэрвеня** - 25 гадоў з часу зацвярджэння **Дзяржаўнага герба** Рэспублікі Беларусь, сімвала дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

**8 чэрвеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Ігната Дварчаніна** (1895 -1937), літаратуразнаўца, паэта.

**9 чэрвеня** - 425 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава IV Вазы**, караля польскага і вялікага князя літоўскага.

**9 чэрвеня** - 60 гадоў з часу стварэння Беларускага дзяржаўнага **архіва-музея літаратуры і мастацтва**.

**12 чэрвеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Леапольда Родзевіча** (1895 - 1938, Лагойскі р-н), пісьменніка, драматурга, публіцыста, палітычнага і грамадскага дзеяча.

**21 чэрвеня** - 90 гадоў з часу заснавання ў Гомелі **Ляснога інстытута** (цяпер Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт імя С. М. Кірава ў Менску).

**24 чэрвеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Кузьмы Чорнага** (сапр. Раманоўскі Мікалай, 1900-1944), беларускага пісьменніка, перакладчыка.



**25 чэрвеня** - 90 гадоў з часу заснавання **Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.**

**30 чэрвеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Васіля Уладзіміравіча Ракуця**, выдатніка асветы СССР,

# Юбіленыя і памятныя даты 2020 года

**Ліпень**

**1ліпеня** - 20 гадоў таму адкрыўся **Палац Рэспублікі** ў Менску.

**3 ліпеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Арахоўскага**, беларускага пісьменніка.

**3 ліпеня - Дзень горада** адзначаюць Барысаў, Беразіно, Валожын, Дзяржынск, Капыль, Маладзечна, Нясвіж.

**6 ліпеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Івана Сцяпанавіча Лупіновіча**, глебазнаўца, акадэміка АН БССР.

**9 ліпеня** - 40 гадоў з часу заснавання **Літаратурнага музея Пятруся Броўкі**.

**10 ліпеня** - 120 гадоў з дня нараджэння) **Пётры Сергіевіча**, беларускага жывапісца, графіка, мастака-манументаліста.

**11 ліпеня** - (90 гадоў з дня нараджэння) **Івана Рэя**, жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**14 ліпеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Алеся Астапенкі** (в. Сырская Буда, Рагачоўскі павет) - беларускага паэта, літаратуразнаўца.

**15 ліпеня** - 610 гадоў з часу пераможнай бітвы войскаў ВКЛ і Польшчы пад **Грунвальдам**.

**15 ліпеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Дубоўкі**, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка.

**20 ліпеня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Гальяша Леўчыка**, беларусазнаўца, паэта, публіцыста, перакладчыка, музыкі.



**22 ліпеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Сухога Паўла Восіпавіча** (1895 - 1975), авіяканстуктара.

**24 ліпеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Уладзіміравіча Грушавога**, вучонага, грамадскага дзеяча.

**27 ліпеня** - 30 гадоў з часу прыняцця Вярхоўным Савета БССР **Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР.**

**31 ліпеня** - 100 гадоў таму прынята **Дэкларацыя аб незалежнасці ССР Беларусі** на сумесным пасяджэнні Менскага губернскага ВРК (Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта) з шэрагам палітычных партый і прафсаюзных арганізацый Менскай губерні. У ёй не былі зафіксаваны патрабаванні аб уключэнні ў склад Беларусі Віцебскай, Магілёўскай, Смаленскай губерняў, аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай, аб стварэнні самастойнага беларускага войска і інш.

**Жнівень**

**4 жніўня** - 75 гадоў з часу заснавання Літаратурнага музея ў **Вязынцы**, філіяла Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (Маладзечанскі р-н)

**4 жніўня** - 75 гадоў з часу заснавання Літаратурнага музея ў **Ляўках**, філіяла Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы

**6 жніўня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Альгерда Абуховіча**, беларускага паэта, мемуарыста, перакладчыка.

**7 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Цітовіча**, беларускага этнамузыказнаўцы, дзеяча харавога мастацтва, дырыжора.

**9 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Геніюш** (1910-1983), паэткі, дзеяча беларускага адраджэння.

**10 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Вераб'я**, беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**10 жніўня** - 100 гадоў таму ў Менску пачала дзейнічаць тэатральная група **Уладзіслава Галубка**.

**11 жніўня** - 150 гадоў таму (1870 г.) быў выдадзены **"Слоўнік беларускай мовы"** Івана Насовіча.

**12 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Галубовіча** (Клецкі р-н), беларускага паэта.

**13 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Пятра Кузьміча Краўчанкі**, грамадскага дзеяча, гісторыка, актывіста Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**14 жніўня** - 95 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Міхальчука** (Капыльскі р-н), беларускага празаіка, перакладчыка.

**19 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Алеся Жаўрука** (сапр. Сінічкін Аляксандр) (1910--1942), беларускага паэта.

**25 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Корбана**, беларускага паэта, сатырыка, празаіка.

**27 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Галіны Каржанеўскай** (Слуцкі р-н), беларускай паэтэсы, драматурга.

**29 жніўня** - Дзень горада ў **Заслаўі**.

**27 жніўня** - 220 гадоў з дня нараджэння **Дамініка Ходзькі**, літаратара, этнографа.

**30 жніўня** - Дзень горада ў **Салігорску**.

**Верасень**

**1 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння) **Сымона Баранавых** (Уздзенскі р-н), беларускага дзіцячага пісьменніка, празаіка.

**2 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння) **Анатоля Шаўні**, беларускага паэта, крытыка.

**2 верасня** - 75 гадоў з часу заканчэння **Другой Сусветнай вайны**.

**8 верасня** - 180 гадоў з дня адкрыцця **Горы-Горацкай** земляробчай школы (цяпер Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія).

**11 верасня** - 165 гадоў з дня нараджэння **Еўдакіма Раманава**, беларускага археолага, фалькларыста, этнографа, педагога.

**12 верасня** - 250 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Міхала Сапегі** (1730-1793), гетмана польнага, генерал-маёра ВКЛ.

**12 верасня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Семашкевіча** (Маладзечанскі р-н), беларускага пісьменніка і літаратуразнаўца.

**12 верасня** - Дзень горада ў **Менску.** (Дата для 2020 года).

**12 верасня** - Дзень горада ў **Смалявічах**. (Дата для 2020 года)

**14 верасня** - 100 гадоў з часу заснавання Нацыянальнага акадэмічнага **тэатра імя Янкі Купалы**

**15 верасня** - 235 гадоў з часу заснавання **Менскай вышэйшай духоўнай семінарыі**, вышэйшай навучальнай установы Беларускай праваслаўнай царквы (Слуцк, 1785 г., зараз в. Жыровічы Слонімскага р-на)

**15 верасня - Дзень бібліятэк Беларусі**.

**15 верасня** - 190 гадоў з часу заснавання Гарадзенскай абласной **бібліятэкі** імя Я.Ф. Карскага.

**17 верасня** - Дзень горада ў **Лідзе.** (Апорная дата, рэальныя вар'іруюцца па гадах.)

**19 верасня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Палуяна** (1890-1910), беларускага пісьменніка, публіцыста, літаратуразнаўца.

**24 верасня** - 100 гадоў таму адбыўся **I з'езд КСМБ.**

**25 верасня** - 255 гадоў з дня нараджэння **Міхала Клеафаса Агінскага** (1765-1833), беларускага дзяржаўнага дзеяча, кампазітара.

**28 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Дайліда** (Слуцкі р-н), беларускага празаіка.

**29 верасня** -140 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Пятровіча Сахарава**, этногафа, фалькларыста.

**Кастрычнік**

**10 кастрычніка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Тарасава**, пісьменніка, гісторыка.

**11 кастрычніка** - 150 гадоў з дня нараджэння **Пятра Гаўрылавіча Яцыны**, скульптара.

**12 кастрычніка** - 80 гадоў таму ў Беларусі праведзены **падзел раёнаў на сельсаветы.**

**13 кастрычніка - Дзень работнікаў культуры Беларусі**

**14 кастрычніка - Дзень маці** ў Беларусі

**15 кастрычніка - Міжнародны дзень сельскіх жанчын** (International Day of Rural Women)

**16 кастрычніка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Алеся Сяргеевіча Шатэрніка**, скульптара.

**20 кастрычніка** -135 гадоў з дня нараджэння **Алеся Бурбіса**, палітычнага і тэатральнага дзеяча.

**21 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Івана Фяцісава**, жывапісца, Заслужанага работніка культуры Беларусі.

**24 кастрычніка** - 225 гадоў таму Расія, Прусія і Аўстрыя канчаткова падзялілі **Рэч Паспалітую**.

**24 кастрычніка - Дзень Арганізацыі Аб'яднаных Нацый** (United Nations Day)

**25 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Дударэнкі** (Маладзечна), жывапісца, Заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**25 кастрычніка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Паўлава**, беларускага пісьменніка.

**26 кастрычніка - Міжнародны дзень школьных бібліятэк** (International School Library Day). (Дата для 2020 года)

**30 кастрычніка** - 135 гадоў з дня нараджэння **Альбрэхта Антонія Вільгельма Радзівіла**, XVI, ардынапошняга ардыната Нясвіжа.

**31 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Льва Гумілеўскага**, скульптара, Заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, Народнага мастака Беларусі.

**Лістапад**

**1 лістапада** - 125 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Крыловіча** (Дзяржынскі р-н), беларускага акцёра, аднаго з заснавальнікаў беларускага тэатра, Заслужанага артыста Беларусі.

**1 лістапада** - 95 гадоў з дня нараджэння **Міхася Кавыля**, паэта.

**2 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Баршчэўскага** (Алесь Барскі), беларускага паэта, літаратуразнаўца. Жыве ў Польшчы.

**6 лістапада** - 220 гадоў з дня нараджэння **Леанарда Ходзькі** (Маладзечанскі р-н), беларускага гісторыка, публіцыста, выдаўца.

**8 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Янкі Пачопкі** , літаратара, фалькларыста.

**11 лістапада** - 145 гадоў з дня нараджэння **Альберта Паўловіча**, беларускага паэта-гумарыста, драматурга.

**12 лістапада** - 100 гадоў з дня нараджэння **Андрэя Макаёнка**, Народнага пісьменніка Беларусі, драматурга.

**14 лістапада** - 115 гадоў з дня нараджэння) **Міхася Васілька**, беларускага паэта.

**14 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння **Нічыпара Чарнушэвіча** (Капыль), беларускага паэта, перакладчыка, драматурга.

**16 лістапада** - 115 гадоў з дня нараджэння **Яна Скрыгана** (Капыльскі р-н), беларускага празаіка, паэта.

**16 лістапада** - 95 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Акулы**, пісьменніка.

**16 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **Алега Паўлавіча Белавусава** (Слуцк), мастацтвазнаўца, кінасцэнарыста.

**25 лістапада** - 215 гадоў з дня нараджэння **Яўстафія Янушкевіча** (Салігорскі р-н), кнігавыдаўца, публіцыста, мемуарыста, аднаго з арганізатараў паўстання 1830-1831 гг. на тэрыторыі Беларусі

**25 лістапада** - 65 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Уладзіслававіча Казуліна**, грамадскага дзеяча, доктара педагагічных навук.

**26 лістапада** - 95 гадоў з дня нараджэння) **Юрыя Семянякі**, кампазітара, Народнага артыста Беларусі.

**26 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння) **Уладзіміра Караткевіча**, беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста.



**27 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Пукста**, кампазітара.

**27 лістапада** - 100 гадоў ад пачатку **Слуцкага збройнага чыну**. Спынены ваенныя дзеянні 31 снежня.

**28 лістапада** - 70 гадоў з дня нараджэння **Міколы Пятровіча Кузьміча**, берасцейскага ювеліра.

**29 лістапада** - 190 гадоў ад пачатку паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве. **(Лістападаўскае паўстанне 1830-31 гг.)**

**Снежань**

**6 снежня** - 500 гадоў з дня нараджэння **Барбары Радзівіл**, каралевы Польшчы і вялікай княгіні ВКЛ.



**10 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міколы Арочкі**, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, літаратуразнаўца, крытыка.

**10 снежня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Фердынанда Рушчыца** (1870 - 1936), жывапісца, графіка.

**17 снежня** - 70 гадоў з дня адкрыцця **Барысаўскага** краязнаўчага музея.

**19 снежня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Валянціны Пятроўны Лямцюговай**, мовазнаўцы, даследчыцы тапанімікі і анамастыкі.

**21 снежня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Аладава**, беларускага кампазітара, педагога, Народнага артыста Беларусі

**20 снежня** - 75 гадоў з часу першага выхаду ў свет **"Настаўніцкай газеты"**, выдання асветнікаў Рэспублікі Беларусь.

**25 снежня** - 120 гадоў з дня адкрыцця Менскай абласной **бібліятэкі імя А. С. Пушкіна**

**30 снежня**- 20 гадоў з дня адкрыцця новага **чыгуначнага вакзала ў Менску.**

**31снежня** - 55 гадоў пасёлку **Новалукомль** Бешанковіцкага раёна.

**Юбілейныя даты 2020 года**

**Горад Тураў** - **1040 гадоў** з часу першага ўпамінання ў "Аповесці мінулых гадоў".

**Кірыла Тураўскі** (каля 1130 - каля 1182 ці пасля 1190) - **890 гадоў** з дня нараджэння, беларускага царкоўнага дзеяча, пісьменніка-прапаведніка, беларускага святога.

**Гедзімін, Гедымін**, вялікі князь літоўскі - **745 гадоў** з дня нараджэння.

**Будны Сымон** (каля 1530 - 1593) - **490 гадоў** з дня нараджэння, дзеяча беларускай культуры, гуманіста, філосафа, асветніка, рэлігійнага рэфарматара, філолага, паэта.

**Агінскі Міхал Казімір** (1790 - 1800), дзяржаўны дзеяч, кампазітар, паэт, мецэнат - **290 гадоў** з дня нараджэння.

**Бярэзінскі біясферны запаведнік** - 95 гадоў з часу заснавання.

**Беларускі тэхналагічны ўніверсітэт** - **90 гадоў** з часу заснавання.

**Беларуская акадэмія мастацтваў** - **75 гадоў** з часу заснавання.

**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры** - **45 гадоў** з часу заснавання).

**Вадасховішча "Крыніца"** - **40 гадоў** з часу стварэння.

*Падрыхтаваў*
*Сымон Барыс.*





Да юбілею Вольгі Іпатавай

# У ТВОРЧЫМ СВАЯЦТВЕ (Водбліскі сустрэчаў)

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

Але самым вялікім клопатам у тыя дні была падрыхтоўка для БТ трох перадач: "Рваць ланцуг цемнаты" - пра Цётку, "Подзвіг Скарыны", а таксама пра дзейнасць Ларыёна Свяніцкага - заснавальніка Беларускага аддзела ў львоўскім музеі.

1987 год зафіксаваны і аўтографам Вольгі Іпатавай на запрашальным білеце на яе аўтарскі вечар, які адбыўся 20 сакавіка ў Смаргонскім раённым доме культуры:

*Ізноў у дарозе*
*мы з табой, Сяргейка.*
*На гэты раз -*
*смаргонская "батлейка".*

Той 1987 год зафіксаваны і на маіх фотаздымках. Бало такое пры Саюзе пісьменнікаў "Бюро прапаганды мастацкай літаратуры". І вось ідуць на сустрэчу з чытачамі-слухачамі Вольга Іпатава, Анатоль Кудравец, Лола Званарова, Генадзь Пашкоў… Ладзілі такія падарожжы Алесь Ставер, Пятро Ліпай.

Восень 1987 г. была аздоблена юбілеем Зоські Верас. У так званай "Лясной хатцы" пад Вільняй 27-28 верасня адзначалі 95-годдзе Людвікі Антонаўны Сівіцкай (Войцік). Зоську Верас ведалі як пісьменніцу, фалькларыстку, выдаўца, рэдактара, аўтара мемуараў - у тым ліку і пра Максіма Багдановіча. Канешне, кінааператары па просьбе Вольгі Іпатавай працавалі як мае быць. І мне, сціпламу фатографу, удалося зафіксаваць некаторыя моманты той святочнай падзеі. Вось на здымку злева направа абмяркоўваюць захаваныя рарытэты дачка Зоські Верас Галіна Войцік, яе муж Лявон Луцкевіч, кіношніца Ала Чорная, Вольга і сама Зоська Верас, Уладзімір Содаль. Спадчына веку - у альбомах. Варта толькі прыглядзецца і паслухаць сведку…



x x x

У ліпені 2003 г. Вольга Іпатава запрасіла мяне на цікавае мерапрыемства ў Браслаў. Захаваліся здымкі з тых часоў. Мы ў бібліятэцы: за сталом - Вольга Іпатава побач гаспадыні, наўкруг стаяць муж Вольгі - Ягор Фядзюшын, Алесь Рыбак, Алесь Жамойцін… І я аказаўся ў кадры на той цікавай сустрэчы. Потым была праходка па старажытным горадзе. І яшчэ адзін здымак - каля возера. Устойлівымі аказаліся Волечка, Алесь Рыбак, Франц Сіўко… А я "прызямліўся" да мацерыка знакамітых продкаў.



Натхнёны Браславам, я запрасіў Вольгу і яе мужа ў падарожжа на маё роднае Прыдзвінне. Вось і мястэчка Лявонпаль, дзе 26.11.1999 г. я заснаваў Музей Радзімазнаўства. Агледзеўшы экспанаты, заглянуўшы ў Хату бабкі Ядзвінні, мы накіраваліся на правы бераг Дзвіны. Там у вёсцы Цінкаўцы, недалёка ад Бігосава і Верхнядзвінска, у 1979 г. быў створаны мною літаратурнакраязнаўчы музей "Хата бабкі Параскі на Шляху з Грэкаў у Варагі".

Госці былі ўсцешаны набыткамі маёй творчай сядзібы. У той дзень з'явіліся на паперы першыя радкі прысвячэння Вользе:

*Усё аглядала ў Прыдзвінні,*
*у жменьку ўбіраючы краскі:*
*і зёлкі бабулі Ядзвінні,*
*і скарбы бабулі Параскі.*
*Музей той Радзімазнаўства*
*увесь у прывабе прыволля…*
*Багатае стала сваяцтва*
*з табою, гуклівая Воля!*
*І продкі з жытнёвай кудзелі*
*узносяцца зноў над вякамі…*
*Сяйво з тваіх жменек надзеі*
*у вершах жывое між радкамі.*
*Дзвіна не згубіла раздолля,*
*бо там ля стырна стала Воля,*
*а Крывія - пад жаўрукамі!*

*10.07.2003, 17.03.2017.*

Той 2003 год занітаваўся ў памяці, бо на Калядах перад новым, 2004-м - годам Малпачкі - з аблачыны перада мною раскрыліліся такія радкі:

*Насмешлівай Малпачкі год*
*Усё абяцае: падманы,*
*І боль, і душэўныя раны,*
*Працяг беларускіх нягод…*
*Ды сцежка ж упарта вяла, -*
*І мы не абдзелены клёкам!*
*Так, як у юнацтве далёкім, -*
*Змагаймася, вої святла!*

*В. Іпатава. 22.12.03 г.*





x x x

Ох, гэтыя аўтографы! Але як слаўна гучыць: "Дарчыя надпісы"! Ім я прысвяціў кнігу-альбом: "Аўтографы з кнiжнiцы Сяргея Панізніка (1960-2011)". Вось на старонцы 75 чытаю: *"Сяргею, не на памяць - на ўспамін аб добрых днях, гадзінах, калі мы - разам - збіраліся, спрачаліся - калі мы былі маладымі, з'яднанымі - мы, цяпер чараціны - але няхай і сапраўды "толькі творчасць апраўдвае нас перад Богам".*




Гэты аўтограф на зборніку лірыкі "Парасткі" (1976). А побач праяўляецца надпіс на кнізе "Грамадзянін свету" (Да 95-годдзя Барыса Уладзіміравіча Кіта) ад сябра рэдкалегіі гэтага выдання Вольгі Іпатавай:

*"Сяргею Панізніку на прэзентацыі яго "Пры сьвячэньні…"* (маецца на ўвазе мой зборнік вершаў, выдадзены ў 2004 г.)
*Я яму пакланіцца нізенька*
*Не саромеюся, а ганаруся*
*Бо сардэчна люблю Панізніка-*
*Дон Кіхота маёй Беларусі.*

*В. Іпатава. 21.01.2005 г."*

Вольга Іпатава
Свабода да апошняга дыхання
Аповеды пра падарожжы
Сяргею Панізніку, Дарагому сябру і паплечніку па літаратуры і змаганню - з даўняй любоўю. В. Іпатава 2.11.07 г
Мінск «Кнігазбор» 2007

На наступнай старонцы кнігі-альбома прадстаўлена кніга Вольгі Іпатавай "Свабода да апошняга дыхання (Аповеды пра падарожжы)" з такім дарчым надпісам:

*"Сяргею Панізніку. Дарагому сябру і паплечніку па літаратуры і змаганню - з даўняй любоўю.*

*В. Іпатава. 2.11.07 г."*

А праз дзесяць гадоў я атрымаў віншаванні і сардэчныя зычэнні не толькі ад Вольгі Міхайлаўны, але і ад яе сына Руслана Качаткова, мужа Ягора Фядзюшына:

*Дзень тваіх народзінаў*
*Не адно, што нас усіх звяло:*
*Як не змоўкне звонкая*
*"Пагоня",*
*Хай не згасне і тваё чало.*
*Хай гучаць і вершы, і санеты,*
*Што душа шукае "ў небесі…"*
*Місію высокую паэта*
*Доўга-доўга, сябра наш, нясі!*

*10.05.2017.*

Іду напярэймы шчырых пажаданняў, узбагачаючыся ласкай дружалюбных людзей. І не толькі з нагоды ўзнёслага юбілею Волечкі лагоджу імя даўняй сяброўкі, дачкі Міхайла. Ого! Як не ганарыцца паэтам, перакладчыкам, празаікам гістарычнага жанру з героямі Давыдам Гарадзенскім, Прадыславай..! Творы лаўрэаткі многіх прэмій перакладзены на рускую, англійскую, нямецкую, узбекскую, балгарскую, польскую, славацкую, чэшскую мову і мову хіндзі. А сама Вольга перакладала на беларускую мову творы рускіх, літоўскіх, украінскіх, узбекскіх, армянскіх пісьменнікаў. Як не ўсцешыцца асобай, узнагароджанай ордэнам "Знак пашаны", медалём Ф. Скарыны, удастоенай звання Ганаровага акадэміка Міжнароднай акадэміі навук "Еўразія"!

А мае зычэнні добрай-мілай Вользе Міхайлаўне на наступныя зімы-вёсны-леты такія: давесці распачатыя творчыя пошукі фантастычнай Гіпербарэі, бо

*для сустрэч не трэба трон;*
*для натхнення, для спатолі*
*веру: ёсць на полі Долі*
*Цэнтр - Гіпербарэі схрон.*
*Праца, у абдымкі Волі!*

**Сяргей Панізнік** - *саюзнік Вольгі па з'яўленні ў перыёдыцы (1959), падначалены старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, і на той час - удзячны лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (2000).*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/
http://pawet.net/ http://kamunikat.org/
http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*
*Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 6.01.2020 г. у 17.00. Замова № 2.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,61 руб., 3 мес.- 7,83 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.